АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

20 - 26 САКАВІКА 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 3000 РУБЛЁЎ
№12 (152)

МАЛАДЗЕЧНА

## 3% і добраахвотна

Існаванне мясцовай футбольнай каманды па розных прычынах пастаянна праходзіць у экстрэмальных умовах. Адна з галоўных - фінансаванне.

Улады гэтую праблему пастанавілі вырашыць вельмі проста. Па прапанове савета дырэктароў горада гарвыканкам рэкамендуе кіраўнікам прадпрыемстваў і арганізацый усіх формаў уласнасці ўносіць добраахвотныя ўзносы на ўтрыманне футбольнай каманды.

З 1 лютага і ў памеры 3% ад прыбытку.

*Аддзел інфармацыі.*

МІНСК

## Асвойце мільёны

У Міністэрстве сувязі адбылася перадтэндэрная канферэнцыя па будаўніцтве тэлевізійнай вежы ў сталіцы. У ёй узялі ўдзел прадстаўнікі 12 фірмаў з 11 краін.

Па словах першага намесніка міністра сувязі **А. Будая**, да 30 красавіка прымаюцца заяўкі ад фірмаў. На працягу месяца спецыяльная камісія разгледзіць іх і зробіць свой выбар.

Новая вежа будзе трансліраваць больш як 10 праграм тэлебачання. Кошт будаўніцтва ацэньваецца ад 30 да 50 мільёнаў долараў. Асваенне будаўнічай пляцоўкі на праспекце Машэрава плануецца ўжо сёлета.

*Мікола ЛІННІК.*

МАЛАДЗЕЧНА

## "Пілігрым" з "Агеньчыка"

У горадзе ствараецца новае структурнае падраздзяленне - турысцкі клуб. У цяперашні час ён дзейнічае ў складзе клуба "Агеньчык", які падпарадкоўваецца аддзелу гарвыканкома па фізкультуры, спорце і турызме.

"Пілігрым" застаецца ў веданні згаданага аддзела, які, згодна з рашэннем гарвыканкома, выступіць заснавальнікам самастойнага клуба. Апошняму гэта дасць магчымасць мець штатных работнікаў, фінансаванне.

Самастойна працуе "Юны дэсантнік". Цяпер можна чакаць, што наступным аддзеліцца шахматны брыдж-клуб "Папараць".

*Аддзел інфармацыі.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Хто жадае памітынгаваць?

Мясцовая Рада БНФ "Адраджэнне" падала ў гарвыканкам заяўку на правядзенне 25 сакавіка святочнага мітынгу ля памятнага знака "Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі".

З нагоды 80-х угодкаў з дня абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі на Цэнтральнай плошчы горада маюць намер сабрацца, у асноўным, прыхільнікі Народнага Фронту. Падобныя мерапрыемствы звычайна прыцягваюць няшмат людзей (такую ж увагу маюць да сваіх мерапрыемстваў і мясцовыя камуністы).

Ці то асветніцкая работа не на ўзроўні, ці то маладзечанцы не надта прагнуць незалежнасці сваёй краіны.

*Аддзел інфармацыі.*

ВІЛЕЙКА

## Ищут пожарные...

Ледзьве не ўзнік пажар у царкве, якая будуецца на выездзе з горада.

Хутчэй за ўсё, "каратнула" праводка ці сапсавалася электраплітка. Свяшчэннік полымя патушыў, пажарных не выклікаў. Абышлося і без значных матэрыяльных страт.

*Аддзел інфармацыі.*

ІВЯНЕЦ

## Мокрыя грошы

700 мільёнаў выдзеліў Мінскі абласны камітэт прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя на добраўпарадкаванне возера ў цэнтры гарпасёлка.

За гэтыя грошы ПМК з суседняга Маладзечна добра ачысціць мясцовую жамчужыну. На жаль, не хопіць сродкаў, каб ажыццявіць праект у цэлым - пабудаваць пляж і лодачную станцыю.

*Таццяна ШАБЛЫКА.*

## Начальнік Ашмянскай мытні Уладзімір Яфімчык:

# "Нельга выключаць фактаў хабару"

*АШМЯНЫ. Мытня тут дзейнічае ўжо шосты год. На беларуска-літоўскай мяжы ў яе падпарадкаванні два пасты - "Кляўіца", які мае статус міждзяржаўнага, і "Каменны Лог" - міжнародны (вядомы тым, што непадалёку затрымалі здымачную групу беларускага бюро ОРТ). Некаторыя бакі дзейнасці мытні цікавяць многіх. Пра гэта і гаварылі мы з начальнікам Уладзімірам Яфімчыкам.*



ФОТА ІАЕХ/PROMEDIA

***- Якая яна, паўсядзённая работа мытніка?***

- Нялёгкая і няпростая. Тут вам і мытны кантроль, афармленне дакументаў, выяўленне перавозімай кантрабанды. Нярэдка нашым мытнікам даводзіцца чуць у свой адрас лаянку, пагрозы. Але нічога не зробім, бо такая наша служба.

***- А што за гэтыя гады кантрабандысты перапраўлялі праз мяжу?***

- Помнім і яшчэ доўга будзем помніць затрыманне 130 тысяч долараў, якія не былі ўнесеныя ў дэкларацыю, а затым судом канфіскаваныя ў даход дзяржавы. Было затрымана маімі падначаленымі 500 тон спірту, партыі бытавой тэхнікі, а таксама мноства дробязі.

***- Чуў, што нядаўна на мытні распачалося будаўніцтва?***

- Сапраўды, так. Толькі ўдакладню: не будаўніцтва, а рэканструкцыя мытнага паста "Каменны Лог". Яго пабудавалі ў 1993 годзе па часовай схеме і на ім за суткі можна было афармляць 800-900 аўтамашын. Але гэтага за апошнія гады стала недастаткова. Прынялі рашэнне рэканструяваць, зрабілі праектную дакументацыю ў "БелНДІгіпрасельбудзе". У аснову новага паста закладзеныя сучасныя тэхналогіі перамяшчэння грузаў і пасажырапатоку. Рэканструкцыю вядзе АБМТ №19 з Ліды. Будзе пункт абмену валюты, а прапускаць за суткі мытнае афармленне будзе да 200 транспартных сродкаў.

***- Кажуць, што, акрамя зарплаты, некаторыя інспектары мытні маюць "на баку" досыць салідныя сумы ў "зялёных"? Як з гэтым у Ашмянах?***

- Не прыхоўваю, што спакуса атрымаць хабар ёсць, і вялікая. Я не выключаю такіх фактаў, тым больш, што адзін супрацоўнік за гэтую справу асуджаны, многія звольненыя. Але кіраўніцтва мытні праводзіць вялікую работу каб, папярэдзіць і выявіць факты хабару.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ВІЛЕЙКА

## Школа замініраваная!

***Дзявочы голас папярэдзіў пра гэта ў аўторак работніцу сталоўкі СШ №3. Патэлефанавалі на 4-м уроку. У настаўніцкую ці дырэктару пабаяліся - пазнаюць голас. Далей сігнал пайшоў па інстанцыях.***

Дзяцей адпусцілі па дамах, будынак школы ачапілі, выклікалі спецыялістаў з сабакамі. Міну шукалі 3 гадзіны. Як і чакалася, безвынікова.

Кантрольных работ, залікаў у той дзень у старшакласнікаў не было. Толькі 5-класнікі пісалі кантрольную па матэматыцы. Магчыма, "жартаўнік" быў з ліку тых, хто не з'явіўся на занняткі. Таму сёння выяўляюць "сачкоў".

Некаторыя настаўнікі лічаць, што штуршком тупога гумару стаў паказ па тэлебачанні ў панядзелак чарговай серыі "Залы чаканя". У серыяле ўжо абыгрывалася падобная сітуацыя.

Па першых падліках, такі ўчынак толькі школе нанес страты на 25 мільёнаў рублёў. А для прапушчаных заняткаў будуць выкарыстаны летнія канікулы.

У снежні мінулага года ў крымінальным заканадаўстве асобна выдзелены артыкул аб наперад ілжывых паведамленнях пра магчымыя выбухі, падпалы ці іншыя дзеянні, дзе ёсць замах на грамадскую бяспеку. Артыкул прадугледжвае пазбаўленне волі да 5 гадоў.

*Аддзел інфармацыі.*

КАЛЯНДАР

## Перанесены рабочы дзень

***Саўмін Беларусі пастанавіў перанесці рабочы дзень з панядзелка, 27 красавіка, на суботу, 25 красавіка.***

Нагадаем, што 12-13 красавіка адзначаецца каталіцкі Вялікдзень, 19-20 - праваслаўны і 28 сакавіка - Радаўніца. Гэтыя дні - выхадныя. Каляндар на красавік пасля пераносу рабочага дня выглядае так:

**КРАСАВІК** / АПРЕЛЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| А | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ч | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| П | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| С | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Н | 5 | 12 | 19 | 26 | |

ПАДПІСКА-98

## Не забудзьцеся падпісацца на "Рэгіянальную газету"

Калі вы падпісаны толькі на першы квартал, абавязкова завітайце на пошту. Не адкладвайце гэта на заўтра.

*Аддзел інфармацыі.*



НА КОНКУРС "ФОТАМАДЭЛЬ РЭГІЁНА"



*НАТАША, Маладзечна, 17 год. Любіць прыроду і жывёл, захапляецца маляваннем, хоча стаць фотамадэллю.*

*Яе бацькі пастаянна выпісваюць "РГ", і калі Наташа даведалася пра конкурс, то даслала свой здымак для ўдзелу.*

СТАРЫ АЛЬБОМ



На здымку пачатку XX стагоддзя будынак Трынітарскага манастыра.

ФОТА З ФОНДАЎ МІНСКАГА АБЛАСНОГА КРАЯЗНАЎЧАГА МУЗЕЯ.

У 1758 годзе ў Маладзечне прадстаўнікамі роду **Агінскіх** быў адкрыты каталіцкі Трынітарскі кляштар. Пасля вайны 1812 года ў яго сценах змяшчался шляхецкае павятовае вучылішча, якое незадоўга перад гэтым было пераведзена з Бабруйска. Пазней ў 1864 годзе ў будынку адкрылі першую на тэрыторыі Беларусі настаўніцкую семінарыю. У перыяд міжваеннага жыцця Польшчы тут змяшчалася гімназія імя **Тамаша Зана**. На жаль, цяпер у гэтым цікавым, з багатай гісторыяй будынку размяшчаюцца памяшканні станкабудаўнічага завода.

## Удакладняем

У мінулым нумары ў рубрыцы "Стары альбом" недакладна названа прозвішча прадстаўнікоў сям'і **Балкоўскіх**. Нашы прабачэнні чытачам.

МАЛАДЗЕЧНА

## Камусьці пашанцуе

Набліжаецца слаўны юбілей горада - 610-годдзе. Затым, дарэчы, будуць 620-, 630- і да т. п.

Як і 10 год таму, маладзечанцы змогуць узяць удзел у святочнай грашова-рэчавай латарэі. Мэта яе - умацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы устаноў культуры. Вось толькі на 600 год горада яго жыхары не надта актыўна падтрымалі падобнае мерапрыемства.

*Аддзел інфармацыі.*

ВІЛЕЙКА

## Увядзем новую стаўку?

Апошнім часам тут прыкметна павялічылася колькасць бадзяжных сабак. Асабліва шмат іх у мікраране "Зеніта".

Галодныя і лютыя, яны пасля зімы ўяўляюць асаблівую небяспеку. Між тым, да сярэдзіны XVIII стагоддзя кожны горад (у тым ліку і Вілейка) меў такую "штатную пасаду" як кат. У абавязкі гэтага чалавека ўваходзіла, акрамя ўсяго, знішчэнне бадзяжных сабак.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

АСТРАВЕЦ

## Будаўнікоў хоць адбаўляй

Здаецца, што для будаўнікоў з мясцовай МПМК-158 часы, калі прадпрыемства не мела заказаў, - учарашні дзень.

Ды што там гаварыць, калі і сёння пахваліцца аб'ёмам работ можа не кожны. Тым не менш, у МПМК-158 на бліжэйшы час складзены своеасаблівы бізнес-план. У яго ўваходзіць будаўніцтва 20-кватэрнага МЖК-1, 30-кватэрнага ЖБК, банка, харчблока ТМА, будынка міліцыі і іншыя аб'екты. Цяпер, як зазначылі ў кіраўніцтве, справа стаіць толькі за фінансаваннем.

*Алесь СВІРЧУКОЎ.*

АШМЯНЫ

## Рэзервы, на жаль, у цане

***У райцэнтры прадукцыю ААТ "Ашмянскі масакамбінат" ведаюць добра. Розных гатункаў кілбасы, мясныя паўфабрыкаты рэалізуюцца ў чатырох гандлёвых пунктах. Яшчэ дзве крамы дзейнічаюць у суседнім Астраўцы, дзе задоўга да прыезду аўтамабіляў з прадукцыяй амаль штодня ля іх выстройваюцца чэргі. Не толькі з-за танная прадукцыі, але з-за таго, што яна смачная і разнастайная.***

Праўда, як зазначыла дырэктар ААТ "Ашмянскі масакамбінат" **Тамара Філіповіч**, над прадпрыемствам "сабраліся хмары". Раптам для ўсіх перапрацоўчых прадпрыемстваў паднялі закупачныя цэны на жывёлу. На першы погляд, нічога дзіўнага, бо такое адбывалася і раней. Але з той розніцай, што кампенсацыю за надбаўкі да асноўнага кошту раней мясакамбінату плаціла дзяржава. Цяпер жа гэта трэба рабіць з уласнай кішэні. Для гэтага спатрэбіцца шукаць дадатковыя рэзервы.

Не трэба быць вялікім прагназістам, каб прадказаць, што, хутчэй за ўсё, тыя рэзервы знойдуць у падаражэнні сваёй прадукцыі. Чым, магчыма, пастаявіць сябе "на калені", бо попыт, несумненна, знізіцца. Нам, пакупнікам, з такімі заробкамі ашмянская кілбаса будуць марай.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

АСТРАВЕЦ

## Доўг плацяжом...

У электрасувязістаў з месяца ў месяц існуе праблема - уладальнікі тэлефонаў не выказваюць жадання разлічвацца.

На Астравеччыне вызначыліся калгасы імя Куйбышава - 85 мільёнаў рублёў, а Карла Маркса і "Кямелішскі" - на 63 і 43 мільёны рублёў адпаведна. Куды больш складаная сітуацыя ў адносінах да беларуска-польскага СП "Лесполь". Сувязісты плануюць спагнаць з іх амаль 50 мільёнаў рублёў з дапамогай абласнога суда.

Ёсць пастаянныя неплацельшчыкі і сярод грамадзян, але сумы там нязначныя.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

РАДАШКОВІЧЫ

## Школьнікі і крымінальны кодэкс

Юрыст па адукацыі **Вольга Калько** школьнікаў з мясцовай СШ аб'яднала ў клуб "Праваед".

Клуб дзейнічае пры філіяле раённага дома творчасці. Дзеці вывучаюць крымінальны кодэкс, апошнім часам яны з кіраўніком наведалі народны суд, Жодзінскі СІЗА.

Эліта школы плануе стаць юрыстамі, "цяжкія" падлеткі жадаюць ведаць, што іх можа чакаць на слізкай дарозе.

*Аддзел інфармацыі.*

ВАЛОЖЫН

## Ператворым ручай у раку

ААТ "Ракаўскі сырзавод" вырашыў матэрыяльна стымуляваць тыя ланцужкі, па якіх трапляе малако на прадпрыемства.

Тут распрацавалі і зацвердзілі новыя ўмовы: лепшыя здатчыкі-індывідуалы, малаказборшчыкі, кіраўнікі гаспадарак і сельсаветаў (па сваіх групах) атрымаюць грашовыя прэміі ад 1 да 5 мільёнаў. Праліча-на, што гэта ўздыме на 1% здачу малака насельніцтвам.

*Таццяна ШАБЛЫКА.*

КУЛЬТУРА

## Валерый Скаражонак пазмагаецца

**ВІЛЕЙКА.** Па выніках агляду-конкурсу мастацкай самадзейнасці 13 сакавіка ў гарадскім доме культуры адбыўся гала-канцэрт, прысвечаны Дню Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, у якім бралі ўдзел лепшыя калектывы і выканаўцы горада.

У напружаным творчым рэжыме працуе цяпер тэатр песні "Земляки" (мастацкі кіраўнік **Валерый Скаражонак**), бо ў хуткім часе калектыў будзе змагацца за прысваенне звання "народны".

## Тыдзень на кнігу

**СМАРГОНЬ.** Чарговая клубная вучоба культработнікаў раёна была прысвечаная тэме развіцця дзіцячых аматарскіх аб'яднанняў. Яна праходзіла на базе гарадскога дома культуры, Залескага ЦДК, Кушлянскага СДК, Валэйкаўскага дома фальклору. Прысутнічалі спецыялісты з вобласці.

19 сакавіка ў гарадскім ДК адбылося адкрыццё тыдня кнігі і музыкі для дзяцей і юнацтва.

## Джана Рома

**АШМЯНЫ.** Тры калектывы прадстаўлялі раён на свяце народнай музыкі (праводзілася 14 сакавіка ў Лідзе абласным упраўленнем культуры): інструментальная група дзіцячай музычнай школы (кіраўнік **Жанна Мажэйка**), цыганскі калектыў "Джана Рома" (кіраўнік **Алег Дыман**), інструментальны калектыў клуба в. Граўжышкі (кіраўнік **Васіль Сідаровіч**).

Званне дыпламанта і каштоўны падарунак атрымаў калектыў "Джана Рома".

У раёне ідзе агляд школьных самадзейных канцэртных праграм.

## Інвентарызацыя самадзейнасці

**МЯДЗЕЛ.** У рамках праводзімых "дзён культуры сельскага Савета ў райцэнтры" 15 сакавіка адбыўся канцэрт да Дня Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, на якім былі прадстаўлены калектывы і выканаўцы устаноў культуры Свірскага гарпасялковага і Нарачанскага сельскага Савета.

Падведзены вынікі агляду мастацкай самадзейнасці ў рамках фестывалю "Беларусь - мая песня", што стаў своеасаблівай "інвентарызацыяй" мастацкіх самадзейных калектываў.

Лепшымі сталі калектывы і выканаўцы клубных устаноў вёсак Слабада, Крывічы, Занарач, Сваткі, Камарова, в. Нарач.

Станоўчы вынік - аднаўленне харавога мастацтва, абнаўлення і рост удзелу ў самадзейнасці моладзі, з'яўленне новых калектываў (фальклорны калектыў "Крыніца" Нарачанскага СДК, кіраўнік **Наталля Варабей**, і дзіцячы танцавальны калектыў Крывіцкай дапаможнай школы, кіраўнік **Данута Савіцкая**).

Раён рыхтуецца да свята "Гукання вясны" і ўдзелу ў нацыянальнай выстаўцы народнага мастацтва "Жывыя крыніцы" (г. Мінск, 6 мая), што стане заключным этапам фестывалю "Беларусь - мая песня".

*Тэрэса ВАСІЛЬЕВА.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Жаданні і магчымасці

Гараджане неяк прызвычаіліся, што вясна пачынаецца з тэатральнага фестывалю "Маладзечанская сакавіца". Сёлета яна пятая.

Штогод маладзечанцы маюць магчымасць пашырыць свой тэатральны кругагляд, акунуцца ў атмасферу тэатральных "тусовак". Хаця ў гэтых магчымасцях ёсць і праблемы.

Афіша сёлетняга фестывалю не надта ўжо і багатая, не назіраецца там нават блізкае замежжа. Білетаў прадавалі абмежаваную колькасць.

Трапіць на адкрыццё і закрыццё і ўбачыць, як стварэецца тэатральныя святы і саміх стваральнікаў, немагчыма. Гэта імпрэза для гасцей, гледачы, у асноўным, самі акцёры, рэжысёры, крытыкі, высокае начальства. А як наконт "культуру - у масы"?

Кожны год у Маладзечне - фестывальны? Мы так заможна жывем, так шмат ствараем цікавых і адметных спектакляў, што можам хваліцца імі штогод.

Хаця як маладзечанку мяне не можа не радаваць, што перад кожным фестывалем ідзе падрыхтоўка горада - нешта рамантуецца, падмалёўваецца. Прыкмета народная такая: калі на вуліцах кладуць новы асфальт - чакай гасцей. Ці чарговае свята.

Цяпер ідзе рамонт у былым Доме культуры будаўнікоў (цяперашні тэатр лялек "Батлейка"). Глядзіш, і вуліцу Драздовіча добраўпарадкуюць.

*Таццяна КАЗЛОЎСКАЯ.*

ШТО ЧАКАЕ БІЗНЕС

# Пернік ці бізун?

***МАЛАДЗЕЧНА. Напрыканцы мінулага тыдня ў горадзе прайшоў сход прадстаўнікоў недзяржаўнага сектара эканомікі.***

Ці то сціплай была рэклама згаданага мерапрыемства, ці то стома ад барацьбы з усім і ўсё прычыняй, але калектыўна падвесці вынікі работы ў годзе мінулым і выбраць сваіх дэлегатаў на рэспубліканскі з'езд сабраліся адзінкі. І гэта пры тым, што нават пасля нядаўняй "чысткі" прадпрымальніцкіх шэрагаў шляхам перарэгістрацыі ў горадзе налічваецца, даруйце за казённы стыль, 463 суб'екты гаспадарання і 2475 прыватных прадпрымальнікаў без утварэння юрыдычнай асобы.

Сёння многія прадпрыемствы недзяржаўнай формы ўласнасці могуць даць фору калектывам, што знаходзяцца ў цесных абдымках дзяржаўнага рэгулявання. Тыя ж народнае прадпрыемства "Маладзечнамэбля", АТ "Маладзечнажалезабетон", "Тэхнавест", "Струм", будаўнічая фірма "Барыт" ды і іншыя ў тэрмін адлічваюць у бюджэт "кругленькія" сумы. Дарэчы, летась іх уклад раўняўся сараку працэнтам. Дзякуючы апошнім у горадзе скарацілася колькасць беспрацоўных-- за кошт стварэння новых рабочых месцаў.

Але над прадпрымальніцтвам далёка не бясхмарнае неба. У словах многіх выступоўцаў гучалі скаргі на дыскрымінацыю ў адносінах да недзяржаўных прадпрыемстваў і прадстаўнікоў малога бізнесу. Іх абкружылі, як зайца паляўнічыя, падатковыя інспектары і работнікі дзяржкантролю, пажарныя, экалагі і міліцыя-- і кожны не супраць пашчыпаць, указаць, а то і санкцыі ўжыць. "Хто абароніць прадпрымальніка?"-- гэтае пытанне мясцовых "кіты" бізнесу і драбная "рыбка" рыначнай стыхіі адрасавалі перш за ўсё высокаму сталічнаму госцю-- першаму намесніку міністра прадпрымальніцтва і інвестыцый **Анатолю Скобержу**. Рэакцыя не была пазбаўлена палітычнай афарбоўкі: дзяржава гатовая працягнуць руку.

Вось толькі б не аказаўся ў ёй бізун-- на пернік айчынны бізнес ужо не разлічвае.

Адстойваць інтарэсы маладзечанскіх прадпрымальнікаў і калектываў прадпрыемстваў недзяржаўнага сектара эканомікі і шукаць адказ на вынесенае ў загаловак пытанне на з'ездзе даверана ажно шасці дэлегатам-- ад "прыватніка" **Сяргея Іванова** да намесніка старшыні Мінаблвыканкома **Канстанціна Туровіча**. Галасавалі па загадзя складзеным спісе і за ўсіх разам.

*Віталь ПАШУК.*

